KEVIN EASTMAN • TOM WALTZ • DAN DUNCAN

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

## SHADOWS OF THE PAST VOL. 3






ТАК, А ЗАРАЗ ПАТЛУМАЧЦЕ МНЕ ЯШЧЭ РАЗ, СПАЧАТКУ ВЫ БЫЛІ ЗВЫЧАЙНЫМІ...

...МАЛЕНЬКІМІ ЧАРАПАШКАМІ...

...А ПОТЫМ ВЫ МУЦІРВАЛІ, ВЫРАСЛІ, НАВУЧЫЛІСЯ РАЗМАЎЛЯЦЬ, І СТАЛІ... НІНЗЯ.

А ВАШ БАЦЬКА – ГІГАНЦКІ РАЗМАЎЛЯЛЫ ПАЦУК – ЯКІ ТАКСАМА НІНЗЯ – БЫЎ НЯДАЎНА ВЫКРАДЗЕНЫ...

...ВЯЛІЗНЫМ КАТОМ – ТАКСАМА РАЗМАЎЛЯЛЫМ, АЛЕ НЕ НІНЗЯ – ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЁН НАПАЎ НА ВАС РАЗАМ З АРМІЯЙ РОБАТАЎ-ЗАБОЙЦАЎ.

І ЎСЕ ВЫ СТАЛІ ТАКІМІ, ТАМУ ШТО ПАДВЕРГЛІСЯ ЎЗДЗЕЯННЮ ХІМІЧНАГА ПРЭПАРАТУ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК НІНЗЯ – ЗВЫЧАЙНЫЯ ЛЮДЗІ-НІНЗЯ – УВАРВАЛІСЯ Ў «СТОКГЕН», ДЗЕ Я ТАДЫ ПРАЦАВАЛА, І ЛЕДЗЬ НЕ ЗАБІЛІ МЯНЕ.

І ВОСЬ ШТО, ЯК ВАС УСІХ КЛІЧУЦЬ?


МІКЕЛЯНЖЭЛА.
ДАНАТЭЛА.
РАФАЭЛЬ.
ЛЕАНАРДА.


БОЖА МОЙ, ГЭТА ЎЖО ЗАНАДТА.


Я...
...Я ДАЛА ВАМ ГЭТЫЯ ІМЁНЫ.


ЗНАЧЫЦЬ... ТЫ ТАЯ САМАЯ.
ТАЯ САМАЯ ХТО?
БАЦЬКА СКАЗАЎ, ШТО Ў ТОЙ ЛАБАРАТОРЫІ БЫЎ НЕХТА З ДОБРАЙ АЎРАЙ, ТОЙ, КАГО ЁН СПРАБАВАЎ ПАПЯРЭДЗІЦЬ АБ НЕБЯСПЕЦЫ. ГЭТА БЫЛА ТЫ, САПРАЎДЫ?


НЕ ВЕДАЮ НАКОНТ «ДОБРАЙ АЎРЫ», АЛЕ, КАЛІ СПЛІНТЭР – ВАШ БАЦЬКА, ТАДЫ, ТАК, ЁН САПРАЎДЫ ДАПАМОГ МНЕ. ПА МЕНШАЙ МЕРЫ... МНЕ ТАК ЗДАЛОСЯ.
ЗАРАЗ Я ЎЖО НІ Ў ЧЫМ НЕ ЎПЭЎНЕНА.


ДАРЭЧЫ, ДОНІ, ТЫ ЗАБЫЎ РАСКАЗАЦЬ ПРА ТОЕ, ШТО МЫ ГЭТА... РЭІНКАРНІРАВАЛІ.
МАЙКІ, ПАВЕР, Я АБ ГЭТЫМ ПАМЯТАЮ.


СТОП, СТОП... РЭІНКАРНАЦЫЯ? ПАКІНЕМ ГЭТА НА ІНШЫ ЧАС, ДОБРА? У МЯНЕ МОЗГ ЗАРАЗ ВЫБУХНЕ.


ТАК, УСЯ ГЭТАЯ НАВУКОВАЯ І КАСМІЧНАЯ БЯЗГЛУЗДЗІЦА МОЖА ПАЧАКАЦЬ.


НАМ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ НАСТАЎНІКА СПЛІНТЭРА І, КАЛІ ТУТ ЗАМЕШАНЫ НЯЧЫСЦІК, ТАДЫ, Я ЛІЧУ, ЗА ЎСІМ СТАІЦЬ «СТОКГЕН».
ДЫ ТУТ І РАЗВАЖАЦЬ НЕ АБ ЧЫМ, РАФ. НА ТОЙ ВЫСТАВЕ СТОКМАН ВЫКАРЫСТОЎВАЎ СУПРАЦЬ МЯНЕ ПРЫБОРЫ З ПАДОБНЫМІ ЗНАКАМІ*.
* ГЛЯДЗІ TMNT МІКРА-СЕРЫІ #3: ДАНАТЭЛА.


ТАМУ Я І ПРЫВЁЎ СЮДЫ ЭЙПРЫЛ, РАБЯТЫ, КАЛІ Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ЯНА ПРАЦАВАЛА Ў «СТОКГЕН» І ВЕДАЛА ВАС ЯШЧЭ ДА МАТАЦЫІ, Я ВЫРАШЫЎ, ШТО ЯНА ЗМОЖА ДАПАМАГЦІ.


ДОБРА БЫЛО Б НАМ ПАТРАПІЦЬ УНУТАР ЛАБАРАТОРЫІ «СТОКГЕН» – ПАГЛЯДЗЕЦЬ, ЦІ ЁСЦЬ ТАМ МАЙСТАР? ЗМОЖАШ ДАПАМАГЦІ НАМ ГЭТА ЗРАБІЦЬ?
Я ЎСЯГО ТА ІНТЭРН. І МНЕ БОЛЬШ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЬ УВАХОДЗІЦЬ У ЛАБАРАТОРЫЮ Ў НЕРАБОЧЫ ЧАС, АСАБЛІВА ПАСЛЯ ІНЦЫДЭНТА З НІНЗЯ. АЛЕ... МЯРКУЮ, ПАСПРАБАВАЦЬ МОЖНА.


ПРОСТА ТАК НАС ТУДЫ НІХТО НЕ ПУСЦІЦЬ, РАФ. Я НА СВАЕ ВОЧЫ БАЧЫЎ ТОЕ, НА ШТО ЗДОЛЬНЫ СТОКМАН. І, КАЛІ БАЦЬКА САПРАЎДЫ Ў ІХ, ТАДЫ ТАМ БУДЗЕ ЎЗМОЦНЕНАЯ АХОВА.
А ШТО НАКОНТ ТЫХ, ІНШЫХ НІНЗЯ, ЯКІЯ АТАКАВАЛІ СЁННЯ ЛЕА?*
* ГЛЯДЗІ TMNT МІКРА-СЕРЫІ #4: ЛЕАНАРДА.


НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ ЗА ГЭТЫХ ДУРНЯЎ...
...У ІХ БОЛЬШ НЕ АТРЫМАЕЦЦА ЗАСПЕЦЬ НАС ЗНЯНАЦКУ.
АЛЕ ТРЭБА ДУМАЦЬ АБ ІНШЫМ...


«...БАЦЬКА ЧАКАЕ АД НАС ДАПАМОГІ».
ЦЯПЕР УЖО НІЧОГА НЕ ЗРОБІШ, ЧОРТАЎ ВЫРАДАК...


...СПЫНІ СУПРАЦІЎЛЕННЕ, ЗМІРЫСЯ І ПРЫЗНАЙ ГОРКУЮ ПРАЎДУ.


ТАБЕ КАПЕЦ.


МАГЧЫМА, ТЫ ПРАВЫ, СТАРЫ НЯЧЫСЦІК... А, МОЖА, ТЫ ПРОСТА ПЕРА-БОЛЬШВАЕШ СВАЮ ПЕРАВАГУ Ў ДАДЗЕНЫ МОМАНТ.


ПЕРАБОЛЬШВАЮ? ХА! ДА ТЫ ЯШЧЭ ТУПЕЕ, ЧЫМ Я ЛІЧЫЎ, ПАЦУЧОК.


ТЫ ЗМУЧАНЫ І ЗВЯЗАНЫ, І НІКУДЫ НЕ ЗБЕГНЕШ. НАВАТ КАЛІ Ў ЦЯБЕ АТРЫМАЕЦЦА ВЫРВАЦЦА З ГЭТЫХ КАЙДАНОЎ, АХОВА ТУТ ЖА ПАРВЕ ЦЯБЕ НА ТЫСЯЧЫ КРЫВАВЫХ КАВАЛАЧКАЎ ПАЦУЧАГА МЯСА.
ТАК ШТО, КАЛІ ХТО ШТО І ПЕРАБОЛЬШВАЕ...


BREEP
BREEP
BREEP
...ДЫК ГЭТА ТЫ.
ГЭТА МЫ ЯШЧЭ ПАБАЧЫМ.


ВАЗЬМІ ЎЖО ГЭТУЮ ГРОБАНУЮ ТРУБКУ, ЧОРТ ВАЗЬМІ!
Т-ТАК, СПАДАР!


Ч-ЧЭТ АЛЕН НА СУВЯЗІ.
ТАК, ДОКТАР. ЁН, Э... ТУТ.
ГЭТА... ГЭТА ВАС.
ДАВАЙ СЮДЫ, ІДЫЁТ ХРЭНАЎ.


АЛЁ.
МІСТАР НЯЧЫСЦІК, МЫ З КЛІЕНТАМІ НАКІРОЎВАЕМСЯ ДА ВАС. У ВАС ТАМ УСЁ ДОБРА, Я СПАДЗЯЮСЯ?
НЕ НАКЛАДЗІ Ў ПОРТКІ, СТОКМАН. ГЭТЫ ПАЦУК НІКУДЫ НЕ ДЗЕНЕЦЦА, АДНАК МНЕ ЎЖО СТАНОВІЦЦА СУМНА. ЧАС НАРАЗАЦЬ ТОРТ, КАЛІ ТЫ РАЗУМЕЕШ, ПРА ШТО Я.
РАЗУМЕЮ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК, АЛЕ НА ЎСЁ СВОЙ ЧАС. А ПАКУЛЬ СКАЖЫЦЕ МІСТАРУ АЛЕНУ, КАБ ЁН НЕ ПАЧЫНАЎ НІЯКІХ ТЭСТАЎ ДА НАШАГА ПРЫБЫЦЦЯ. ПАКУЛЬ.


ГЭЙ, СТОРАЗУМОВЫ, БОС СКАЗАЎ ПАЧАКАЦЬ З ПАЦУКОМ, ПАКУЛЬ ЁН НЕ ПРЫЕДЗЕ. ЁН ХОЧА, КАБ ГЭТЫ ВЫРАДАК ЯШЧЭ ТРОШКІ ПАМУЧЫЎСЯ Ў ЧАКАННІ ТАГО, ШТО МЫ З ІМ ЗРОБІМ.
МАЕ СЫНЫ ПРЫЙДУЦЬ ЗА МНОЮ, СТАРЫ НЯЧЫСЦІК.
ВЕДАЕШ, ШТО, ПАЦУК?
З УСІМ ЗНІШЧАЛЬНЫМ АБСТАЛЯВАННЕМ І АХОВАЙ, ЯКІЯ ТУТ ЗМЕШЧАНЫ...


...Я НІЯК НЕ ДАЧАКАЮСЯ ІХ ПРЫХОДУ.


ТАК, ПЛАН ГАТОВЫ.
НУ НЯ ВЕДАЮ... НЕ ПАДАБАЕЦЦА МНЕ ГЭТА.


ЭЙПРЫЛ, ТАБЕ НЕ АБАВЯЗКОВА ГЭТА РАБІЦЬ. ТАМУ, КАЛІ РАЗДУМАЕШ, МЫ ЗРАЗУМЕЕМ. ГЭТА МОЖА БЫЦЬ НЕБЯСПЕЧНА.
ДЗЯКУЙ, ШТО ПАПЯРЭДЗІЎ, АЛЕ... НЕ... Я САПРАЎДЫ ЖАДАЮ ДАПАМАГЧЫ.


З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК НА МЯНЕ НЕПАЛІ ТЫЯ НІНЗЯ, Я АДЧУВАЛА СЯБЕ БЕЗДАПАМОЖНАЙ. АЛЕ ЗАРАЗ Я АДЧУВАЮ, ШТО ЎСЁ СТАЛА ЛАДЗІЦЦА.
ЗДАЕЦЦА, ПАСТУПОВА Я СТАНАЎЛЮСЯ ЎСЁ АДВАЖНЕЙ.


І Я ХОЧУ ВЕДАЦЬ, ШТО НА САМОЙ СПРАВЕ ХАВАЕ «СТОКГЕН». МАГЧЫМА, СЁННЯ МЫ ГЭТА ВЫСВЕТЛІМ.
ТЫ ЎПЭЎНЕНА?
ТАК... Я ЎПЭЎНЕНА.


ТАДЫ ХОПІЦЬ ПАСЛАБЛЯЦЦА, ХАДЗЕМ ВЫРАТОЎВАЦЬ БАЦЬКУ.
МОМАНТ, РАБЯТЫ... МНЕ ТРЭБА НЕШТА ЎЗЯЦЬ З САБОЙ.


ВІДАЦЬ, СЁННЯ НАМ ДАПАМОЖА НЕ ТОЛЬКІ ЭЙПРЫЛ.


МОЙ, Э... ПРАЦОЎНЫ Ў ЛАБАРАТОРЫІ ЗАПЭЎНІВАЕ, ШТО ЎСЁ Ў ПАРАДКУ, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ...


...ХУТКА МЫ ПРЫБУДЗЕМ У «СТОКГЕН», І ВЫ ЎЛАСНЫМІ ВАЧАМІ ЎБАЧЫЦЕ ВЫМАННЕ ПСІХАТРОПНАГА КАМПАНЕНТА З КРЫВІ БЕГЛАГА ГРЫЗУНА.
ТЫ ЗАЎСЁДЫ ТАК КАЖАШ, СТОКМАН...


...АЛЕ Я ЎЖО СТАМІЎСЯ АД ПУСТЫХ АБЯЦАННЯЎ, ЯКІЯ ТЫ ДАЕШ МНЕ, ТОЛЬКІ КАБ ПАЦЯГНУЦЬ ЧАС.


НЕ СПРАЧАЙСЯ.
АЛЕ Ў ГЭТА РАЗ, СЯБР МОЙ...


«...У НАС УСЁ ПАД КАНТРОЛЕМ».
ВОСЬ, РАБЯТЫ, ВОСЬ ЁН – УВАХОД З НАЙМЕНШАЙ АХОВАЙ У ПАРАЎНАННІ З ТЫМІ, ШТО ВЯДУЦЬ ДА ЛАБАРАТОРЫЙ СТРОГАГА РЭЖЫМУ, ЯК Я І ПАЗНАЧЫЛА ДЛЯ ВАС НА МАПЕ. КАЛІ ЯНЫ ДЗЕСЬЦІ І ТРЫМАЮЦЬ СПЛІНТЭРА, ТО ТАМ.


І ШТО ЗАРАЗ?
ЗАРАЗ ЧАС НАДЗЕРЦІ ЧЫЙСЬЦІ ЗАДОК.
МЫ ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ ТАБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ПАКАЗАЛА ШЛЯХ, ЭЙПРЫЛ, АЛЕ ЦЯПЕР ВАМ З КЕЙСІ ЛЕПШ УЙСЦІ. ГЭТА СЯМЕЙНАЯ СПРАВА.


ШТО? А Я НЕ ЧАСТКА СЯМ'І? Я НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ЎЙДУ, ЛЕА.
ТАК, ЛЕА. ДЖОНС – АДЗІН З НАС.
ДОБРА, ДОБРА... Я ПРОСТА НЕ ХОЧУ, КАБ ТЫ ПАПАКУТВАЎ, КЕЙСІ. МЫ НАВАТ НЕ ЎЯЎЛЯЕМ, ШТО ЧАКАЕ НАС УНУТРЫ.


НЕ ХВАЛЮЙСЯ ПА МНЕ, ЧУВАК. Я ЗЛАДЖУ.




Э... ТАК.
ДОЎГАЯ ГІСТОРЫЯ. Я РАСКАЖУ ЎСЁ ПОТЫМ.


ШТО Ж, КАЛІ КЕЙСІ ЗАСТАЕЦЦА, ТАДЫ І Я ТАКСАМА.
ГЭТА НЕ ВЕЛЬМІ ДОБ...


ГЭТА АПОШНЯЕ СЛОВА. Я ХАЧУ ВАМ ДАПАМАГЦІ, ХЛОПЦЫ. ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, Я МАГУ СТАЯЦЬ ЗВОНКУ І САЧЫЦЬ, ЦІ НЕ З'ЯВІЦЦА НЕХТА.
ДОБРА, ДОБРА. ПРОСТА НЕ ТРАПЛЯЙСЯ ЎЗБРОЕНЫМ ЛЮДЗЯМ. КАЛІ МЫ НЕ ВЕРНЕМСЯ ПРАЗ ГАДЗІНУ, БЯГІ АДСЮЛЬ.
ОК?
ОК.


ДОБРА, НАМ ТРЭБА ІСЦІ, ПАКУЛЬ ЯШЧЭ НЕ ЦЁМНА. ДОНІ, УСЁ ПАДРЫХТАВАНА?
ЯШЧЭ ЗУСІМ ТРОШКІ І... ЁСЦЬ!


ЗРОБІМ ГЭТА.


БАЧЫЎ УЧОРА ГУЛЬНЮ, ЛЬЮІС? ЯК ТАБЕ ЎСЕ ГЭТЫЯ ПЕРАХОПЫ?
ДАВАЙ НЕ БУДЗЕМ ПРА ГЭТА, ДЖЫМІ.


ДЫ Я ПРА ТОЕ, ШТО КАМАНДА ХУТКА АПЫНЕЦЦА НА АПОШНІМ МЕСЦЫ, КАЛІ ГЭТЫЯ СКНАРЫ НЕ РАСКАШЭЛЯЦЦА НА НОВАГА КВОТЭРБЭКА. А ЯК ТЫ ЛІЧЫШ?
Я СКАЗАЎ, ДАВАЙ НЕ БУДЗЕМ ПРА ГЭТА, ДЖЫМІ. Я ТУТ СПРАБУЮ ПАЕ...
ГЭЙ... БАЧЫЎ ГЭТА?


БАЧЫЎ ШТО?
НА ДРУГІМ МАНІТОРЫ...


...САБАКА НЕЙКАЯ, ЦІ ШТО?
ЭЭ, ГЭТА НЕ САБАКА, ЛЬЮІС.


KSSSSSH


ШТО ГЭТА ЗА ХРЭНЬ?
НАПЭЎНА, АДЗІН З ТЫХ БАЯВЫХ РОБАТАЎ, ШТО СТАЯЦЬ УНІЗЕ! ЁН ЗДУРНЕЎ!
BLAM BLAM
ЛІХА МАЦЬ, ДЖЫМІ, КЛІЧ ПАДМАЦАВАННЕ!


НЕ МАГУ...
...РАЦЫЯ НЕ ПРАЦУК.


ГЭТАЯ ВАЛАЦУГА З'ЯДАЕ РАДЫЁСТАНЦЫЮ!


ЧАС ВЫНОСІЦЬ АДСЮЛЬ СВАЕ НОГІ І КЛІКАЦЬ НА ДАПАМОГУ. НАШАЯ ЗБРОЯ СУПРАЦЬ ЯГО БЯССІЛЬНА.
ТАК... ДОБРАЯ ІДЭЯ.


ВЫДАТНА, ДОНІ. АХОВА Ў ЖАХУ.


ТАК, РОБАТ СВАЮ ЗАДАЧУ ВЫКАНАЎ...
ЗАРАЗ НАША ЧАРГА.




SKZZT
ZZK




Ё, ДЗІАС, ГЭТА РОДЖЭРС З СЕКТАРА А. НЕ ВЕДАЕШ, КУДЫ ДЗЕЛІСЯ ЛЬЮІС І ДЖЫМІ? КАНЕЦ СУВЯЗІ.
НЕ, АЛЕ Я ЧУЎ НЕЙКІ ШУМ З ІХ БОКУ. НАПЭЎНА, ЯНЫ ЗНОЎ РАЗБІЛІ СВОЙ ЦЕЛІК. ПАЙДУ, РАСПАКУЮ ІМ НОВЫ. КАНЕЦ СУВЯЗІ.


ГРРГК!


А ГЭТЫ ХЛОПЕЦ УЗБРОЕНЫ КУДЫ ЛЕПШ, ЧЫМ РАБЯТЫ НА ЎВАХОДЗЕ. РАЗУМЕЕЦЕ, ШТО ГЭТА АЗНАЧАЕ?
ТАК... ЧЫМ НЕБЯСПЕЧНЕЙ ГАРМАТЫ...
ТЫМ МЫ БЛІЖЭЙ ДА МЭТЫ.


БЛІЖЭЙ НЕКУДЫ! НІКОМУ НЕ РУХАЦЦА!


ВОСЬ ТАК, ТЫ МЕЎ НА ЎВАЗЕ?
ГАХХ!


KRAK
І ТАК?!


ПАЦУК – ДЗЕ ЁН?
ЯКІ... ЯКІ... ГРК... ПАЦУК?


ТЫ ДОБРА ВЕДАЕШ, ЯКІ, СКЛІЗЕНЬ. ДЗЕ ЁН?


УНІ... ЗЕ.


WHACK
ДЗЯКУЙ.


СЮДЫ, ХЛОПЦЫ! НАПЭЎНА, МЫ ЎЖО АМАЛЬ...


...НА МЕСЦЫ.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, СЛОВА «АМАЛЬ» БЫЛО ЛІШНІМ, ЛЕА.


FZZZAK
ТРЭБА ПАДКРАСЦІСЯ ДА ГЭТАКА РОБАТА БЛІЖЭЙ І ВЫВЕСЦІ ЯЕ З ЛАДУ, ІНАЧАЙ НАМ КАНЕЦ! ДОНІ, НАМ БЫ ЗАРАЗ СПРАТРЭБІЛАСЯ ЧАРГОВАЯ РАЗУМНАЯ ІДЭЯ!
ДАЙ МНЕ ХВІЛІНКУ! Я ШТОСЬЦІ ПРЫДУМАЮ!
БОЖА!


ЁЎ!
CHOOM


АСТУДЗІ СВАЕ МАЗГІ, ДОН... У МЯНЕ ЁСЦЬ СВАЯ ІДЭЯ.
ГЭЙ, КЕЙСІ... ТРЫМАЙ!


ГЭТЫЯ КЛЯТЫЯ РОБАТЫ ЖАВАЛІ І СТРАЛЯЛІ Ў НАС УСЮ КЛЯТУЮ НОЧ!


НЯ ВЕДАЮ, ЯК ВЫ, ХЛОПЦЫ, АЛЕ...


...З МЕНЯ ДОСЫЦЬ!
ГЭТА БЫЛА МАЯ ЛЮБАЯ БОЙКА, ТУПЫ РОБАТ!
НЕ АБУРАЙСЯ, ДОН, АЛЕ ІДЭЯ РАФА БЫЛА ФАЙНАЙ.
KONK


РААМГХ!
ТАК, ЛІХА МАЦЬ!


ТАК, ДОБРА...
...МЫ ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛІ!
РЫХТУЙЦЕСЯ, ХЛОПЦЫ... Я АДЧЫНЯЮ ДЗЬВЕРЫ.


О БОЖА, НЕ ВЕРУ СВАІМ ВАЧАМ.


ЁН ЖЫВЫ.
ТАК, АЛЕ ДЗЕ Ж БАЦЬКА?


ДАВАЙЦЕ СПЫТАЕМ У НЯЧЫСЦІКА.
ЯК ЛІЧЫШ, КЕЙСІ, ЯКІМ ЧЫНАМ МОЖАМ ЗДЗЕРЦІ СКУРУ З КАТА?
ЗАРАЗ ВЫСВЯТЛІМ, БРАЦІШКА.
НЕ!


АДЫЙДЗІЦЕ АБОДВА.
ХУТКА.


ДЗЕ ЁН? ДЗЕ ПАЦУК?
ЁН... ЯГО З-ЗАБРАЛІ ІНШЫЯ.
ЯКІЯ ЯШЧЭ ІНШЫЯ?


ТАКІЯ Ж, ЯК... ВЫ...


...ТАКСАМА З М-МЯЧАМІ І Ў М-МАСКАХ.


МЫ ВЯРНУЛІСЯ, ДЗЯДУЛЯ, І МЫ ПРЫНЕСЛІ З САБОЙ МУТАНТА.


СЛУХАЙ МЯНЕ ЎВАЖЛІВА, ПАЦУК.
Я КАРАІ З КЛАНА «ФУТ», І ТЫ НАШ ПАЛОННЫ. ТАБЕ ТРЭБА ГЭТА ЗАПОМНІЦЬ.


А ТАКСАМА ТОЕ, ШТО ТЫ ПАВІНЕН ВЫЯВІЦЬ ПАВАГУ, ГРЫЗУН, І СХІЛІЦЦА ПЕРАД...

З ТАГО МОМАНТУ, ЯК Я ЎСВЯДОМІЎ, ШТО АПЫНУЎСЯ Ў ЦЕЛЕ ПАЦУКА, Я АДЧУЎ ПРЫСУТНАСЦЬ НЕЙКАГА СТАРАЖЫТНАГА І ЗМРОЧНАГА ЦЕНЯ, НАВІСШАГА НАДА МНОЙ – СІЛУЭТУ НЕВЫРАЗНАГА, АЛЕ ПРЫ ГЭТЫМ ДА БОЛЮ ЗНАЁМАГА.

Я АДЧУВАЎ, ЯК ГЭТЫ ЦЕНЬ ЦЯГНЕ ДА МЯНЕ СВАЕ ЗМРОЧНЫЯ ШЧУПАЛЬЦЫ, СПРАБУЕ СХАПІЦЬ МЯНЕ... І МАЮ СЯМ'Ю.

ЭЛЕ ГЭТЫ ВОРАГ – ТОЙ САМЫ ЦЕНЬ – УСПЛЫВАЎ ПЕРАД НАМІ ТОЛЬКІ Ў ВЫГЛЯДЗЕ НЕВЫРАЗНЫХ ВЫБЛІСКАЎ І РАЗМЫТЫХ НАМЁКАЎ.

ДА ГЭТАГА ЧАСУ.

Я КАРАІ З КЛАНУ «ФУТ», ГРЫЗУН. А ГЭТА...







«ФУТ» ІСНУЕ ЎЖО ШМАТ СТАГОДДЗЯЎ, ПАЦУК. ХАВАЮЧЫСЯ Ў ЦЕМРЫ. МЫ УВЕСЬ ЧАС ЗАСТАЁМ НАШЫХ ВОРАГАЎ ЗНЯНАЦКУ, ЗНІШЧАЕМ ІХ І ЗНІКАЕМ У НАЧЫ, ЧАКАЮЧЫ НОВАГА ЗАГАДА НАШАГА МАЙСТРА.

МЫ ЗАБОЙЦЫ. МЫ РАБАЎНІКІ. МЫ ВАЯРЫ.












ТАДЫ ТЫ, НАПЭЎНА, ВЕДАЕШ, ЧАМУ ТЫ ТУТ?


ХУТКА БУДЗЕ ВАЙНА, ГРЫЗУН. ПАЧНЕЦЦА ЯНА НА БРУДКІХ ВУЛІЦАХ ГЭТАГА ГОРАДА І ПАСТУПОВА РАСПАЎСЮДЗІЦЦА НА ЎСІМ ЗЯМНЫМ ШАРЫ. ВАЙНА ЗА ЎЛАДУ І КАНТРОЛЬ. ВАЙНА, ЯКУЮ «ФУТ» ПЛАНАВАЛІ СТАГОДДЗЯМІ.
І ПАД КІРАЎНІЦТВАМ МАЙСТРА ШРЭДАРА...


...КЛАН «ФУТ» АТРЫМАЕ ПЕРАМОГУ Ў ГЭТАЙ ВАЙНЕ.


І ЯКОЕ ДАЧЫНЕННЕ ГЭТАЯ ВАЙНА МАЕ ДА МЯНЕ?


КЛАН «ФУТ» СКЛАДАЕЦЦА З САМЫХ НАТРЭНІРАВАНЫХ, ДЫСЦЫПЛІНАВАНЫХ І СМЕРТАНОСНЫХ САЛДАТ НА ПЛАНЕЦЕ. АЛЕ МЫ НІКОЛІ НЕ СПЫНЯЕМСЯ НА ДАСЯГНУТЫМ.
НАША ГАЛОЎНАЯ СІЛА СКЛАДАЕЦЦА З НАШАЙ ЗДОЛЬНАСЦІ АДАПТАВАЦЦА І ДАМІНАВАЦЬ.


ТЫ – ЖЫВОЕ ПАЦВЕРДЖАННЕ ТАГО, ШТО НАШЫ ВОРАГІ СТАЛІ ПАПАЎНЯЦЬ СВАЕ АРМІІ ВАЯРАМІ-МУТАНТАМІ З НЕАРДЫНАРНЫМІ ЗДОЛЬНАСЦЯМІ...


...ШТО ЗРАБІЛІ І МЫ.


ТЫ НЕ АДКАЗАЛА НА МАЁ ПЫТАННЕ: ЯК ГЭТА ТЫЧЫЦЦА МЯНЕ?
СЁННЯ МЫ ДАЕМ ТАБЕ МАГЧЫМАСЦЬ ДАЛУЧЫЦЦА ДА НАШАЙ АРМІІ, МУТАНТ. СТАЦЬ САЛДАТАМ КЛАНА «ФУТ».


АЛЕ СПАЧАТКУ...




...ВЫПРАБА-ВАННЕ!


АБАРАНЯЙСЯ, ГРЫЗУН...


...АБО ЗАГІНЬ.


GAS
MARKET
SUPER 4.35
РАБЯТЫ, НАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗАТРЫМАЦЦА КАЛЯ ГЭТАЙ ЗАПРАЎКІ...


МЫ ЎЖО ЦЭЛУЮ ГАДЗІНУ РУХАЕМСЯ ТУДЫ-СЮДЫ, І Я ЗАРАЗ КОНЧУСЯ.
Я ТАКСАМА, ЭЙПРЫЛ. ПАСЛЯ БОЙКІ З КУЧАЙ РОБАТАЎ У КАНАЛІЗАЦЫІ, А ПОТЫМ У ЛАБАРАТОРЫЯХ Я ТАК ЗМАРНАВАЎСЯ, АЖ ПАНЦЫР БАЛІЦЬ.
ГЭТА ЯНА ПРА ФУРГОН КАЖА, ПРЫТЫРАК.
І ЯНА МАЕ РАЦЫЮ – УСЁ ГЭТА МАРНА. МЫ ПАВІННЫ СПЫНІЦЦА І ПАДУМАЦЬ, ШТО РАБІЦЬ ДАЛЕЙ.


ДА ШТО ТУТ ДУМАЦЬ? НЕЙКІЯ НАХАБНЫЯ НІНЗЯ ВЫКРАЛІ СПЛІНТЭРА, І ЗАРАЗ МЫ ПАВІННЫ ЯГО ВЯРНУЦЬ.
КЛАН «ФУТ».


ШО?
ТЫЯ, ХТО ВЫКРАЎ БАЦЬКУ – НАПЭЎНА ГЭТА КЛАН «ФУТ». УСЁ ЗЫХОДЗІЦЦА...


...УСЁ, ПРА ШТО НАМ РАСКАЗВАЎ СПЛІНТЭР, УСЁ ГЭТА МАЕ СЭНС. АРОКУ САКІ, НАША РЭІНКАРНАЦЫЯ, РОБАТЫ, І НАВАТ СТОКМАН І ГЭТЫ ІДЫЁТ НЯЧЫСЦІК – УСЁ ГЭТА ВЯДЗЕ НАС ДА КЛАНА «ФУТ»... НАШЫХ СТАРАЖЫТНЫХ СУПРНІКАЎ...
...ЯК І КАЗАЎ БАЦЬКА.


ГЭЙ... НЕ ПАЧЫНАЙ ЗНОЎ ГЭТАЕ КАСМІЧНАЕ ТРЫЗНЕННЕ, ЛЕА. ЗАРАЗ НАМ ПАТРЭБЕН ДОБРА ПРАДУМАНЫ, ЦВЯРОЗЫ ПЛАН, А НЕ ТВАЯ ЗВЫШНАТУРАЛЬНАЯ БАЛБЫТНЯ.
ДОНІ, ЧАМУ Б ТАБЕ ХОЦЬ РАЗ У ЖЫЦЦІ НЕ ПЕРАКРОЧЫЦЬ ПРАЗ СВАЮ АБМЕЖАВАНАСЦЬ І ПААЗІРАЦЦА?


І ШТО Я ЎБАЧУ, ЛЕА? ПАЛЮЮЧЫХ НА НАС НІНЗЯ, ЯКІМ УЖО НЕКАЛЬКІ СТАГОДДЗЯЎ? МОЖА, ТЫ МНЕ НА ІХ ПАЛЬЦАМ ТКНЕШ, БО Я ІХ НЕШТА НЕ НАЗІРАЮ.
ЧОРТ БЯРЫ, ДОНІ! ТЫ Ж САМ БАЧЫЎ «ФУТ»! ПРАКЛЁН НА МАЮ ГАЛАВУ, ДЫ Я ЗМАГАЎСЯ З ІМІ!
ТЫ ЗМАГАЎСЯ З НІНЗЯ, ЯКІХ ПАЛІЧЫЎ КЛАНАМ «ФУТ», ЛЕА. І ГЭТА ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО БАЦЬКА ЗАРАЗІЎ ГЭТАЙ ІДЭЯЙ ТВАЮ ЧАРАПУШКУ. ЦЯПЕР ТЫ РАПТАМ ВЫРАШЫЎ, ШТО МЕНАВІТА ЯНЫ ЯГО І ВЫКРАЛІ, ХОЦЬ І НЯМА НІЯКІХ ДОКАЗАЎ.


ПАМЯТАЕШ МАЮ БОЙКУ СА СТОКМАНАМ І ЯГО ПАСЛУГАЧАМІ, З УСІМІ ГЭТЫМІ ПРЫБОРАМІ? А МАЙКІ МЕЎ СПРАВУ З НЕЙКІМІ АБІБОСАМІ, ЯКІЯ СПРАБАВАЛІ ВЫКРАСЦЬ РАДЫЁАКТЫЎНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ...
І ЗАЛЯТАЎСЯ ДА ВЕЛЬМІ ФАЙНАЙ ДЗЯЎЧЫНЫ Ў ГАРНІТУРЫ КОШКІ!
А РАФ СУТЫКНУЎСЯ З НЕЙКАЙ ПАЛЯРНАЙ ЛІСКАЙ-МУТАНТАМ?*
*ГЛ. TMNT: МІКРА-СЕРЫІ #1-4


КАНЕШНЕ, ПАМЯТАЮ. ДЛЯ ЧАГО ТЫ ГЭТА ЎЗГАДАЎ, ДАНАТЭЛА?
ГЭТА Я ДА ТАГО, ЛЕАНАРДА, ШТО ТРЫ З ЧАТЫРОХ НАШЫХ СУСТРЭЧ НЕ МЕЛІ НІЯКІХ АДНОСІН НІ ДА ЧАГО ЗВЫШНАТУРАЛЬНАГА. ГЭТА 75 АДСОТКАЎ, МУЖЫК. І ЯШЧЭ АДЗІН МОМАНТ, НЕ ЗАБУДЗЬ ПРА СЁННЯШНЮЮ ВЕЧАРЫНУ З РОБАТАМІ!
УСЯ ГЭТАЯ АГУЛЬНАЯ ЗМОВА МАЕ НАВУКОВАЕ ТЛУМАЧЭННЕ, І ТЫ Б ЗАЎВАЖЫЎ ГЭТА, КАЛІ Б НАДАЎ ПАРУ ХВІЛІН НА АНАЛІЗ СІТУАЦЫІ, ЯК НАЛЕЖЫЦЬ САПРАЎДНАМУ ЛІДАРУ.


АДЗІНАЕ, ШТО Я ЗАЎВАЖЫЎ, ДЫК ГЭТА ВАС АБОДВУХ, МАРНУЮЧЫХ КАШТОЎНЫ ЧАС НА ПУСТЫЯ РАЗМОВЫ. СПЛІНТЭР У НЕБЯСПЕЦЫ, І МЫ ПАВІННЫ ЯГО ВЫРАТАВАЦЬ. Я НЕ ЗБІРАЮСЯ ГУБЛЯЦЬ БАЦЬКУ З-ЗА ТАГО, ШТО ВЫ НІЯК НЕ ВЫРАШЫЦЕ, ХТО З ВАС САМЫ КРУТЫ.
РАФАЭЛЬ, ЦЯБЕ НЕ ПЫТАЛІ.
ТАК, РАФ, ГЭТА ЦЯБЕ НЕ ТЫЧЫЦЦА.


ЯНЫ ЗАЎСЁДЫ ТАКІЯ?
ОЙ, ШТО ТЫ. ГЭТА ЯШЧЭ КВЕТАЧКІ.


ВОСЬ ЯК! НУ А ЦЯБЕ ГЭТА БУДЗЕ ТЫЧЫЦЦА, КАЛІ Я ЗАРАЗ ПАСТУКАЮ ПА ТВАЁЙ ГАЛАВЕ, ДОН!
ДЫ Ў ЦЯБЕ ДУХУ НА ТАКОЕ НЕ ХОПІЦЬ!
СУПАКОЙСЯ, РАФ.
ХЛОПЦЫ, ХЛОПЦЫ...


...ХЛОПЦЫ!


ВАМ УСІМ ТРЭБА СУПАКОІЦЦА. МА ЗГУБІЛІ БАЦЬКУ, ДОМ, УСЕ НАШЫ РЭЧЫ, НАМ НЕЧАГА НАВАТ ПАЕСЦІ, А ВЫ ТУТ КУСАЕЦЕСЯ АДЗІН З АДНЫМ. ГЭТА ПОЎНАЕ ЛАЙНО.
ЗАМЕСТ ГЭТАГА, ДАВАЙЦЕ ЛЕПШ ВЫРАШЫМ, КУДЫ РУХАЦЦА ДАЛЕЙ.
ДУМАЮ, Я ВЕДАЮ, КУДЫ МЫ МОЖАМ ПАЕХАЦЬ...


...КАЛІ, КАНЕШНЕ, ВЫ НЕ ВЫРАШЫЦЕ ПРАЦЯГНУЦЬ СВАЕ ІНФАНТЫЛЬНЫЯ ПЕЎНЕВЫ БАІ І ПРАСІДЗЕЦЬ У ФУРГОНЕ ЎСЮ НОЧ?
ШТО СКАЖАЦЕ?


Я НЕ ХАЧУ ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У ГЭТАЙ БІТВЕ.


ХІЙЯ!


КАЛІ Ж Я АТРЫМАЮ ПЕРАМОГУ, ГЭТА БУДЗЕ НАСУПЕРАК МАІМ МІРНЫМ ПРЫНЦЫПАМ.


ТЫМ НЕ МЕНШ, ЗДАВАЦЦА...


ХІЙЯ!
УФ!


...Я ЗУСІМ НЕ ЗБІРАЮСЯ.


МАЕ ВЫКРАДАЛЬНІКІ ЛІЧАЦЬ, ШТО Ў ІМ ЁСЦЬ ПЕРАВАГА ПЕРАДА МНОЙ – ЭЛЕМЕНТ НЕЧАКАНАСЦІ.


НАЎРАД ЦІ ЯНЫ ЎСВЕДАМЛЯЮЦЬ, ШТО Я ЦЫЛАЕ ЖЫЦЦЁ ЗМАГАЎСЯ СПІНА ДА СПІНЫ З КЛАНАМ «ФУТ», А ПОТЫМ СУПРАЦЬ ІХ.


ІХ БАЯВЫ СТЫЛЬ – ГЭТА МАЯ ДРУГАЯ НАТУРА. УСЕ ІХ РУХІ І ТЭХНІКІ МНЕ ЗНАЁМЫ.


І НЯХАЙ У ГЭТЫМ НОВЫМ ЖЫЦЦІ ІХ ІМЁНЫ І ТВАРЫ МАГЛІ ЗМЯНІЦЦА...


...ІХ МЕТАДЫ, ВІДАВОЧНА, ЗАСТАЛІСЯ НЯЗМЕННЫМІ.


АД СТАРЫХ ЗВЫЧАК, ЯК КАЖУЦЬ...


...ЦЯЖКА ПАЗБАВІЦЦА.


І, ЯК ГАВОРЫЦЦА Ў ПРЫКАЗЦЫ, ЧЫМ ЯНЫ БОЛЬШ...




...ТЫМ БАЛЬНЕЙ ІМ ПАДАЦЬ.


ЧАГО ТЫ ЧАКАЕШ, МУТАНТ? ЗАБІ...


...ЦІ ЗАБ'ЮЦЬ ЦЯБЕ!


Я ЦЯБЕ ЗАРАЗ УМАРНУЮ!


ТЫ КАЗАЎ, ШТО ПАЦУК ПАД НАДЗЕЙНАЙ АХОВАЙ. СЦВЯРДЖАЎ, ШТО ЯНА НІКУДЫ НЕ РУШЫЦЦА. ЧАМУСЬЦІ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК, Я НЕ НАЗІРАЮ ТУТ НІЯКАГА ПАЦУКА: НІ МУТАНТА, НІ САМАГА ЗВЫЧАЙНАГА ГРЫЗУНА.
ЯК ТЫ МОГ ТАКОЕ ДАПУСЦІЦЬ, ЧОРТАВА ТЫ ПАМЫЛКА ПРЫРОДЫ!?
ДОСЫЦЬ ГАРЛАНІЦЬ, А? І БЕЗ ТАГО ГАЛАВА РАСКОЛВАЕЦЦА.


БУДЗЬ УДЗЯЧНЫ, ШТО ТВАЯ ГАЛАВА ЯШЧЭ НА ПЛЯЧАХ!
ТЫ ТАКСАМА СКАЖАШ «ДЗЯКУЙ», КАЛІ ПЕРАСТАНЕШ ТЫКАЦЬ У МАЮ ПЫСУ ПАЛЬЦАМ, І Я ЯГО НЕ АДАРВУ.


ВЕДАЕШ, СТОКМАН, ВЕЛЬМІ ДЗІЎНА, ШТО Ў ПАЦУКА АТРЫМАЛАСЯ ЗБЕГЦІ, УЛІЧВАЮЧЫ ЖОРСТКУЮ ДЫСЦЫПЛІНУ СЯРОД ТВАІХ ПАДНАЧАЛЕНЫХ.


КАЛІ ЛАСКА, ГЕНЕРАЛ... ВЫШЫЯ САРКАСТЫЧНЫЯ ПАЗНАКІ ЗАРАЗ НЕ ДАПАМОГУЦЬ. Я САМ.


ЯШЧЭ РАЗ. ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ПАЦУКОМ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК?
ТЫ МЯНЕ ПЫТАЕШ? КАЖУ Ж, Я БЫЎ БЕЗ СВЯДОМАСЦІ.
СПЫТАЙ ГЭТАТА СЛАБАКА ЧЭТА – ЁН УСЁ БАЧЫЎ.
МІСТАРА АЛЕНА?


КУДЫ ЗНІК ГЭТЫ ІДЫЁТ?


МІСТАР АЛЕН!
С-СЛУХАЙ... НЕ МАГУ ДОЎГА ГАВАРЫЦЬ. К-КАЛІ ЛАСКА, ПЕРАДАЙ МАЙСТРУ, ШТО, ЭЭ, ЧАРАПАХІ З'ЯВІЛІСЯ...


...АД-ДРАЗУ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК КАРАІ ЗАБРАЛА ПАЦУКА.


ВОСЬ ЯНО.
THE SECOND TIME AROUND SHOP!
ПРАБАЧЦЕ, МЫ ЗАЧЫНЕНЫЯ
НУ... ГЭТА ЛЕПШ, ЧЫМ НІЧОГА.


А НЯЎЖО Я СКАЗАЛА, ШТО МЫ ЕДЗЕМ У ГАТЭЛЬ КЛАСА ЛЮКС?
БУДЫНАК ШМАТ ГАДОЎ НАЛЕЖЫЛА МАЁЙ СЯМ'І. МОЙ БАЦЬКА ЗБІРАЎСЯ АДНАЎЛЯЦЬ ЯГО, АЛЕ Ў ЯГО ЗДАРЫЎСЯ САРДЭЧНЫ ПРЫСТУП. ТАМУ ЁН УЖО НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ СТАІЦЬ У ЗАКІНУТЫМ СТАНЕ.


А ТАМ ЁСЦЬ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ І ЭЛЕКТРА-ЗАБЕСПЯЧЭННЕ?
АГА, МАЕ БАЦЬКІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ АПЛОЧВАЦЬ РАХУНКІ.
НАВЕРСЕ ТАКСАМА ЁСЦЬ НЕКАЛЬКІ ВОЛЬНЫХ КВАТЭР, АДНАК ТАМ, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, НЯМА МЭБЛІ.


НАМ УСЁ РОЎНА – МЫ ТУТ НА КАРОТКІ ЧАС. НАМ ТОЛЬКІ ТРЭБА АДПАЧНУЦЬ І РАСПРАЦАВАЦЬ ПЛАН.
Я МАГУ ЎЗЛАМАЦЬ ВАКНО СВАІМ САЕМ.
А МОЖНА ПРОСТА АДЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ МАІМ КЛЮЧОМ.


ЭХ, ВЫ, НІНЗЯ.


Я ЎЖО ДУМАЛА САМАСТОЙНА ТУТ ПРЫБРАЦЦА, АЛЕ З-ЗА ШКОЛЫ І ІНТЭРНАТУРЫ Ў МЯНЕ ЗУСІМ НЕ БЫЛО ВОЛЬНАГА ЧАСУ.


ЯК Я І КАЗАЛА, ГЭТА НЕ САМАЕ КАМФОРТНАЕ МЕСЦА, АЛЕ, ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, ТУТ ВЫ БУДЗЕЦЕ СХАВАНЫ АД ЧУЖЫХ ВАЧЭЙ, А ВАМ ТРЭБА МЕНАВІТА ГЭТА, ТАК?
ЗАРАЗ Я ЗАПАЛЮ СВЯТЛО.


ТА ДА!


УАЎ!
ГЭТА Ж...


...ФАЙНА!
ЭЛЕКТРОНІКА
КОМІКСЫ
КОМІКСЫ


УХ ТЫ! ПЕРШЫ НУМАР «СРЭБНАГА ВАРТАВОГА» Ў ВЫДАТНЫМ СТАНЕ!
ВАКУУМНАЯ ЛЯМПА! ЦУД!


ВІДАЦЬ, ДОНУ І МАЙКІ ТУТ ПАДАБАЕЦЦА.
АГА. ДВА БАТАНІКА Ў АДНОЙ АБОЙМЕ.
ЭЙПРЫЛ, МЫ ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ ЗНАЙШЛА НАМ ПРЫТУЛАК. ТЫ САПРАЎДЫ ТАК ДАПАМАГАЕШ НАМ – НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ЯК МЫ ЗМОЖАМ ТАБЕ АДПЛАЦІЦЬ.
НЕ ХВАЛЮЙСЯ НА КОНТ ГЭТАГА. Я Ж СКАЗАЛА, ГЭТА ЎЗАЕМНАЯ КАРЫСЦЬ...


ДАПАМАГАЮЧЫ ВАМ, ХЛОПЦЫ, Я АДЧУВАЮ, ШТО ГЭТА, НАРЭШЦЕ, ДАПАМАГАЕ МНЕ. НАЖАЛЬ, Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК ДАПАМАГЧЫ ВАМ У ПОШУКАХ БАЦЬКІ.
НЕ ТУРБУЙСЯ...


...З ГЭТЫМ МЫ НЕШТА ПРЫДУМАЕМ.
РАФ ПРАВЫ. АЛЕ СПАЧАТКУ НАМ ТРЭБА ПАСПАЦЬ І ПАЕСЦІ. У НАС БЫЛА ЦЯЖКАЯ НОЧ.
ПАЕСЦІ?!


ЗАРАЗ БУДЗЕ, ХЛОПЦЫ!


ПАСПРАБУЮ ЗДАГАДАЦЦА – У ВАС, РАБЯТЫ, НА СНЕДАННЕ БУДЗЕ ПІЦЦА.


БОЖА, УЖО РАНІЦА! МНЕ ТАКСАМА ЧАС ІСЦІ – У МЯНЕ СУР'ЁЗНЫ ІСПЫТ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН.


Я З ТАБОЙ, ЭЙПРЫЛ.
ДЗЯКУЙ.
ПОСПЕХАЎ, РАБЯТЫ. ЯК ТОЛЬКІ Я БУДУ ВОЛЬНАЯ, Я ПРЫЙДУ ВАС АДВЕДАЦЬ. МОЖАЦЕ ЗАСТАВАЦЦА ТУТ СКОЛЬКІ ВАМ ЗАЎГОДНА, ДАМОВІЛІСЯ?
ЯШЧЭ РАЗ ДЗЯКУЙ, ЭЙПРЫЛ.


ЛІЧЫШ, УСЁ БУДЗЕ ДОБРА, КЕЙСІ?
АГА... НЕ ТУРБУЙСЯ. ГЭТА БЫЛО ФАЙНА З ТВАЙГО БОКУ, ПАКІНУЦЬ ІМ ГЭТАЕ МЕСЦА. ХУТКА ЯНЫ ЗНОЎ ВЕРНУЦЦА ДА ЛАДУ, ВОСЬ УБАЧЫШ.
ГЭТЫЯ ХЛОПЦЫ...


...ВЕДАЮЦЬ, ЯК ВЫЖЫЦЬ.
ХММ. НОВЫЯ СУСЕДЗІ, ГА?


МОЙ СУПЕРНІК ЛЯЖЫЦЬ ЗРЫНУТЫ ЛЯ МАІХ НОГ.
ПРАГНЕ ЛІТАСЦІ.
І, СКРОЗЬ УВЕСЬ ШУМ, СКРОЗЬ УСЮ НАПРУЖАННАСЦЬ, ЯКАЯ НАПАЎНЯЕ ГЭТЫ ПАКОЙ, ПРАБІВАЕЦЦА МЕНАВІТА ГЭТАЕ СЛОВА, ЯК У МАЁЙ ГАЛАВЕ... ТАК І Ў СЭРЦЫ.
ЛІТАСЦІ.
Я ПЕРАМОГ, АЛЕ, КАЛІ Я ЗДЗЕЙСНЮ БЯЗЛІТАСНЫ ЎДАР, ЯКОГА АД МЯНЕ ТАК ЧАКАЮЦЬ...
У ЧЫМ СПРАВА, ГРЫЗУН? ТЫ ПРАЙШОЎ ІСПЫТ. ЗАБІ Ж ЯГО І ДАЛУЧАЙСЯ ДА НАС!

...ТАДЫ Я ПРАЙГРАЮ.
НЕ. Я АДМАЎЛЯЮСЯ ЗАБІВАЦЬ ЯГО.

ДУРАНЬ! МАЙСТАР ШРЭДАР ЗАГАДВАЕ ТАБЕ ЗРАБІЦЬ ГЭТА! НЯЎЖО ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ, ЯКІЯ НАСТУПСТВЫ МОЖА ПАЦЯГНУЦЬ ТВАЁ НЕПАДПАРАДКАВАННЕ?!

ТАК, ЮНАЯ ЛЕДЗІ, Я ЦУДОЎНА РАЗУМЕЮ, ЗА ШТО ТУТ ІДЗЕ БОЙКА. ЗА ГОНАР.
ЗА МОЙ ГОНАР.

Я ШМАТ ЧАГО ВЕДАЮ ПРА КЛАН «ФУТ»... НАВАТ БОЛЬШ, ЧЫМ ВЫ МОЖАЦЕ САБЕ ЎЯВІЦЬ.
ГАЛОЎНАЕ, ШТО КАЛІСЬЦІ ГЭТА БЫЎ СУМЛЕННЫ КЛАН, АЛЕ ЗАРАЗ ІНШЫ ЧАС.

ЯГО ГОНАР БЫЎ АПАГАНЕНЫ ЗНУТРЫ ІНШЫМ ВАЯРОМ, ПАДОБНЫМ ТАБЕ. ЁН ТАКСАМА СТАВІЎ УЛАДУ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ – ТАТАЛЬНАЕ ДАМІНАВАННЕ ЗА ЛЮБЫ КОШТ.
І, ЯК ТЫ, ЁН ПАМЫЛЯЎСЯ.

НАХАБНЫ ЧАРВЯК! ЯК ТЫ АСМЕЛІЎСЯ ЗВЯРТАЦЦА ДА МАЙСТРА ШРЭДАРА З ТАКОЙ ПАГАРДАЙ?! Я АДРЭЖУ ТАБЕ ЯЗЫК!

Я НЕ ГАТОВЫ АДДАЦЬ НІ СВОЙ ЯЗЫК, НІ СВАЁ ЖЫЦЦЁ, АЛЕ ГАТОВЫ ЗМАГАЦЦА ЗА ІХ. Я ЛЕПШ ЗАГІНУ, ЧЫМ ДАЛУЧУСЯ ДА ВАС І ЗГУБЛЮ СВОЙ ГОНАР.
ВЫ АПАГАНІЛІ ГОНАР КЛАНА...

...І Я НЕ БУДУ ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У ГЭТЫМ ЖАХУ!
НЕ... НЕ МОЖА БЫЦЬ.
















...ЗАБІ ЯГО.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ...

IDW

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

#11 • $3.99 • CVR A

EASTMAN
WALTZ
DUNCAN
PATTISON

BY COMICS

ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ
ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ #11 (2011)
ПЕРАКЛАД COMICSBY










КАРАІ...

КОЖНЫ З ІХ БЫЎ ГОДНЫ. ПОЎНЫ РАШУЧАСЦІ. СМЯРОТНЫМ.

...ЗАБЕЙ ЯГО.

ПАВЕРЦЕ, НА САМОЙ СПРАВЕ Я СТАРЫ, ДАЎНО СТОМЛЕНЫ ПАЦУК




...КАБ ЗАГІНУЦЬ АД ЗВЫЧАЙНАЙ СТРАЛЫ...










...НАПЕРАД!

...ГЭТА ЎЖО ЗУСІМ ІНШАЯ СПРАВА.



SECOND TIME AROUND SHOP!S
ПРАБАЧЦЕ, МЫ ЗАЧЫНЕНЫ
ДОБРА, ЯКІ НАШ ПЛАН, ЛЕА...
...ШТО БУДЗЕМ РАБІЦЬ ДАЛЕЙ?



ДАВАЙ Я ТАБЕ РАСКАЖУ, ДОНІ. МЫ ЗНАХОДЗІМ ГАДАЎЕ, ЯКОЕ ВЫКРАЛА СПЛІНТЭРА, І ДАЕМ ІМ ТАКІХ ТУМАКОЎ, ЯКІХ ЯНЫ Ў ЖЫЦЦІ НЕ АТРЫМЛІВАЛІ. А ПОТЫМ ВЯРТАЕМСЯ ДАДОМУ РАЗАМ З БАЦЬКАМ.
КАНЕЦ.



Я ЎДЗЯЧНЫ ТВАЙМУ, ЭЭ... ЭНТУЗІЯЗМУ, РАФ, АЛЕ Я ЎСЁ ЯШЧЭ РАСПРА-ЦОЎВАЮ ДАТАЛЁВЫ ПЛАН, ЯКІ, Я ЎПЭЎНЕНЫ, ПАВІНЕН СКЛАДВАЦЦА З БОЛЬШАГА, ЧЫМ ПРОСТА ПАЧАСТУНКІ КУЛАКАМІ СУПЕРНІКАЎ.
ДАРЭЧЫ, АБ ПАЧАСТУНКАХ...



«...КАЛІ ЎЖО МАЙКІ ВЕРНЕЦЦА З ПІЦАЙ?»
PIZZA
ТАК... МНЕ ГЭТА НЕ ПАДАБАЕЦЦА.
ПАЧАКАЙ ТУТ, МАЛЯ, Я ЗАРАЗ ВЯРНУСЯ.



БУ!
ШТО ЗА...?!



НЕ ХАЦЕЎ ЦЯБЕ НАПУЖАЦЬ! Я ПРОСТА НАКІРОЎВАЎСЯ ДАДОМУ НА ВЯЧЭРУ. ПАЕСЦІ ПІЦУ!
ГРАХ!
SHNNK
СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ГАЛОД-НАЯ...



...БО ЦЯБЕ Я ТАКСАМА ЗАПРАШАЮ.
ЭЙ, ВЕЧАРЫНА З ПІЦАЙ, КАЖАШ...



...МНЕ ГЭТА ПАДАБАЕЦЦА, А ТАБЕ, МЭЙЛО?
ЯШЧЭ ЯК, ЛІНК.
ОХ...


DOUGHNUT
...ЖАХ! ПРАЗ ДЗВЕ ГАДЗІНЫ МНЕ ЎЖО ТРЭБА ПАДЫМАЦЦА НА ВУЧОБУ...


...ЦЯПЕР Я ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ НЯ ЗДАМ ЭКЗАМЕН ПА СУЧАСНАЙ ГЕНЭТЫЦЫ.
НУ, КАЛІ ТАБЕ БУДЗЕ АД ГЭТАГА ЛЯГЧЭЙ, ТАДЫ Я СКАЖУ ТАБЕ, ШТО Я ПРАВАЛЬВАЎ ЭКЗАМЕНЫ, НАВАТ КАЛІ НЕ ШЛЫНДАЎСЯ ПА НАЧАХ У КАНАЛІЗАЦЫЯХ І НЕ БІЎСЯ З ВАР'ЦКІМІ РОБАТАМІ.


СЁННЯШНІ ВЕЧАР БЫЎ САПРАЎДЫ ВАР'ЯЦКІ, ТАК? СПА-ДЗЯЮСЯ, РАБЯТЫ ЎСЁ Ж ЗНОЙДУЦЬ СПЛІНТЭРА, І З ІМ УСЁ БУДЗЕ ДОБРА.
УСЁ ТАК І БУДЗЕ, ЯШЧЭ ПАБАЧЫШ.


ЯК СКАЖАШ. МЫ Ж СЁННЯ ЯШЧЭ ПАБАЧЫМСЯ? НАПРЫКЛАД, ПАСЛЯ ЗАНЯТКАЎ?
КАНЕШНЕ. Я ТОЛЬКІ ЗА.
І Я!


АГА...


...КАЛІ БУДУ ЖЫВЫ.


Я ВЕЛЬМІ ХАЧУ ЖЫЦЬ. КАБ ІЗНОЎ УБАЧЫЦЬ СВАЮ СЯМ'Ю.
КАБ ІЗНОЎ АБАРАНЯЦЬ ІХ.


ТАМУ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СТОМЛЕНАСЦЬ І ЎСЕ МАЕ РАНЫ, Я ПРАЦЯГВАЮ ЗМАГАЦ-ЦА, КАБ ВЫЖЫЦЬ.


ШТО Б ГЭТА МНЕ НЕ КАШТАВАЛА.


Я АДМАЎЛЯЮСЯ ЗДАВАЦЦА.


НУ ШТО...
...ПРАЦЯГНЕМ?


АЛОПЕКС...


...ТВАЯ ЧАРГА ЎСТУПІЦЬ У СУТЫЧКУ.
ДЗЯКУЙ, МАЙСТАР.


РЫХТУЙСЯ ДА СМЕРЦІ, ПАЦУК.
ТАК, Я ПАЦУК.


АЛЕ Я ЯШЧЭ І НІНЗЯ!


АЙ, ДОБРА ВАМ, РАБЯТЫ! У МЯНЕ ЎСЯГО АДНА ПІЦА. НА ЎСІХ УСЁ РОЎНА НЕ ХОПІЦЬ!
ДАВАЙЦЕ Ў ІНШЫ РАЗ.


ІНШАГА РАЗУ НЕ БУДЗЕ, ФРЫКАЗОЙД!
НУ ДОБРА, Я ПАДЗЯЛЮСЯ АДНЫМ КАВАЛКАМ, АЛЕ ДЗЯЛІЦЬ ЯГО ВЫ БУДЗЕЦЕ САМІ.


ВО ХАЛЕРА!
МАЙКІ!
НАПЕРАД!
SHOP !


ЧАМУ ТАК ДОЎГА?! КАЛІ ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС ВЫ ЧЫТАЛІ МАЕ КОМІКСЫ, ТАДЫ, СПАДЗЯЮСЯ ВЫ СХАВАЛІ ЎСЁ НАЗАД!
ЗАПХНІСЯ, МАЙКІ! ГЭТА НЕ СМЕШНА!
УНГ!


ДЫ ХТО ГЭТЫЯ ЁЛУПНІ ТАКІЯ?!
ГАХ!?


ХТО МЫ?! ВЫ САМІ-ТА ХТО ТА...ГГК?!


САПРАЎДЫ! МЫ ЎЖО ДОСЫЦЬ... НАЦЯРПЕЛІСЯ ТАГО, ШТО ВЫ, ПАРШЫВЫЯ МУТАНТЫ, ШЛЫНДАЕЦЕ ПА НАШАЙ ТЭРЫТОРЫІ!


ВЫ, СМЯРДЮЧЫЯ АДМАРОЗКІ-НІНЗЯ... УРК... З КОЖНЫМ РАЗАМ УСЁ... БОЛЬШ ВЫРОДЛІВЫЯ!


МОМАНТ! ЁН СКАЗАЎ...
НЯ МОЖА БЫЦЬ...


...ЭНЖЭЛ?!




А ЯНА ХУТКАЯ.


УФФ!
НЕВЕРАГОДНА ХУТКАЯ.


ГАХ!
ЯК І РАСКАЗВАЎ МОЙ СЫН РАФАЭЛЬ.


Я ВЕДАЮ ПРА ЦЯБЕ, АЛОПЕКС. ШМАТ ЧАГО ЧУЎ ПРА ТВАЕ БАЙЦОЎСКІЯ НАВЫКІ, А ТАКСАМА ПРА ТОЕ, ЯК ТЫ СТАЛА ТОЙ, КІМ ТЫ ЁСЦЬ ЗАРАЗ...
...ШТО ЦЯБЕ ВЫКРАЛІ З ТВАЙГО АСЯРОДДЗЯ І ПРЫМУСОВА ПЕРАТВАРЫЛІ Ў МУТАНТА, ЗРАБІЎШЫ САЛДАТАМ «ФУТ».
Я...


...САМА ГЭТАГА ЖАДАЛА, ПАЦУК!
ТЫ ГАВОРЫШ ТАК, БЫЦЦАМ У ЦЯБЕ БЫЎ ВЫБАР.


АДНАК ЯГО НЕ БЫЛО. ТЫ – ВЫНІК ЗЛАЧЫННАГА ЭКСПЕРЫМЕНТУ.

ЦЯБЕ ПЕРАТВАРЫЛІ СУПРАЦЬ ТВАЁЙ ВОЛІ – У ТОЕ, ЧЫМ ТЫ З'ЯЎЛЯЕШСЯ ЗАРАЗ.

АЛЕ Ў ДАДЗЕНЫ МОМАНТ ТВОЕ ЛЁС У ТВАІХ РУКАХ.
ТЫ МОЖАШ САМА ВЫБРАЦЬ ШЛЯХ, ПА ЯКІМ ХОЧАШ ІСЦІ. ТЫ МОЖАШ БЫЦЬ ВОЛЬНАЙ...

...ЦІ ЗАНЯВОЛЕННАЙ ІНШЫМІ.

ТЫ ЗАНАДТА ШМАТ БАЛ-БОЧАШ, ПАЦУК.
ВЫБАР, КАЖАШ? ДОБРА. Я ВЫБІРАЮ...

...ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ!

KLANG

ТАДЫ Я ДАМ ТАБЕ ВЕЛЬМІ ВАЖНЫ ЎРОК.


АДЛЕГЛАСЦЬ
МІЖ МІРНЫМ
ШЛЯХАМ І ШЛЯХАМ
ГВАЛТУ...
FWIP
ГАХ?!


...ТАКАЯ Ж
ВЯЛІЗНАЯ, ЯК
І РОЗНІЦА
МІЖ...
УФФ!
FWUMP


KRAK
...ВУЧНЕМ
І МАЙСТРАМ!




НУ ВОСЬ,
АРОКУ САКІ,
ЦЯПЕР МЫ
МОЖАМ ПА-
ЗМАГАЦЦА...

...ЯК МАЙСТАР
З МАЙСТРАМ?




У ЧЫМ СПРАВА, ЭНЖЭЛ? ЧАГО ВАМ, ЦМОКАМ, СПАТРЭБІЛАСЯ Ў ГЭТЫ РАЗ?

ЦМОКАМ?

ПУРПУРНЫЯ ЦМОКІ. МЯСЦОВАЯ БАНДА, ІСНУЕ ДАВОЛІ ДОЎГА. ФАРМАЛЁВА МЫ ЗАРАЗ НА ІХ ТЭРЫТОРЫІ.

НІЯКІХ «ФАРМАЛЁВА», КЕЙСІ. І МЫ БОЛЬШ НЕ БАНДА. МЫ КАМАНДА. НЕШТА НАКШТАЛТ СУСЕДСКАГА ДАЗОРУ.



















НЕ ЗАЦЯГВАЙ НАС У ГЭТАЕ ЛАЙНО, ЭНЖЭЛ.


ЗАПХНІСЯ, ЧУН! НАВАТ НЕ СМЕЙ УКАЗВАЦЬ МНЕ, ШТО РАБІЦЬ!


ПАСЛУХАЙЦЕ, Я РАБЛЮ ГЭТА ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ДЖОНС – МОЙ СЯБАР, І Я ПЕРАД ІМ У АБАВЯЗКУ.
МЫ ВЕДАЕМ АДНО МЕСЦА, ДЗЕ ЯНЫ ЗБІРАЮЦЦА. ВОСЬ УЖО НЕКАЛЬКІ ВЕЧАРОЎ ЗАПАР. МЫ ПАКАЖАМ ВАМ, ДЗЕ ЯНО ЗНАХОДЗІЦЦА, АЛЕ НА ГЭТЫМ УСЁ. ПОТЫМ ВЫ САМІ ЗА СЯБЕ. РАБІЦЕ, ШТО ХАЦІЦЕ...
...АЛЕ, ШТО Б ТАМ НЕ ЗДАРЫЛАСЯ З ВАШЫМ БАЦЬКАМ, ЦМОКІ ТУТ НІ ПРЫ ЧЫМ, ДАМОВІЛІСЯ?


ДАМОВІЛІСЯ.


ЛЕА, ТЫ БЫЎ ПРАВЫ... НАКОНТ «ФУТ». Я... Я ПАМЫЛЯЎСЯ.
ПРАБАЧ, ШТО ЎСУМНІЎСЯ Ў ТВАІХ СЛОВАХ, ЧУВАК.
ХОПІЦЬ, ДОНІ... Я НЕ КРЫЎДЖУСЯ, БРАТ.
ТЫ МЕЎ ПРАВА НЕ ВЕРЫЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ З'ЯВЯЦЦА ДОКАЗЫ.


АЛЕ ЦЯБЕР, КАЛІ ЯНЫ Ў НАС З'ЯВІЛІСЯ, ДАВАЙЦЕ ПАКАЖАМ ГЭТЫМ ВЫРАДКАМ, ЧАМУ З НАШАЙ СЯМ'ЁЙ НЯ ТРЭБА ЗВЯЗВАЦЦА.


НУ, ТАДЫ ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ДЛЯ ЧАГО НАДЫШОЎ ЧАС.
АГА...


...ПРЫЙШОЎ ЧАС РАСПЛЮШЧЫЦЬ «ФУТ»!


Я СТАРЫ.
ТЫ ЗАБІЎ МАЮ КАХАНУЮ ТЭНГ ШЭН, САКІ, І ЖОРСТКА КАРАЎ СМЕРЦЮ МАІХ СЫНОЎ ПРАМА НА МАІХ ВАЧАХ.
А ПОТЫМ ТЫ ПАЗБАВІЎ МЯНЕ ЖЫЦЦІ, НЕ ДАЗВОЛІЎШЫ МНЕ ПАЗМАГАЦЦА З ТАБОЙ ДЗЕЛЯ ГОНАРУ І СПРАВЯДЛІВАСЦІ, ЯК НАЛЕЖЫЦЬ ВАЯРУ.
АЛЕ ЗАРАЗ Я СТАЮ ПЕРАД ТАБОЙ У НОВЫМ АБЛІЧЧЫ...


СТАМІЎСЯ.
...З НАМЕРАМ, НАРЭШЦЕ, СТРЫМАЦЬ СВАЕ АПОШНЯЕ АБЯЦАННЕ.


ДЗЯДУЛЯ... ПРАШУ, ДАЗВОЛЬ МНЕ СКОНЧЫЦЬ З ІМ. Я...
НЕ. ТЫ ЎЖО ПАКАЗАЛА, ШТО НЕ ГАТОВАЯ, КАРАІ.


ЁН МОЙ.


МАЕ ЦЕЛА НЫЕ АД БОЛЮ.
ТАКІМ ЧЫНАМ, ХАМАТА ЁШЫ, ВІДАЦЬ, КАБ ЗМЫЦЬ ПЛЯМУ ТВАЁЙ ЗДРАДЛІВАЙ ГАНЬБЫ, ПАЗБАВІЦЬ ЦЯБЕ ГАЛАВЫ БЫЛО НЕДАСТАТКОВА, ХМ?
АЛЕ...
ТЫ ЎСЁ Ж ВЫРАШЫЎ ВЯРНУЦЦА СА СВЕТУ МЁРТВЫХ У ГЭТЫМ ЖУДАСНЫМ АБЛІЧЧЫ І ЯШЧЭ СМЕЕШ КЛІКАЦЬ СЯБЕ МАЙСТРАМ?


...Я НЕ ДАЗВОЛЮ НІ ВОДНАМУ З ГЭТЫХ ФАКТАРАЎ МНЕ ПЕРАШКОДЗІЦЬ
ТАК, КАЛІСЬЦІ ТЫ САПРАЎДЫ БЫЎ МАЙСТРАМ, ЁШЫ. АЛЕ НАВАТ У ТЫЯ ЧАСЫ ТЫ БЫЎ ГОРШЫМ ЗА МЯНЕ. У РЭШЦЕ РЭШТ, ЯК ТЫ І САМ ЗГАДЗІЎСЯ, ТЫ НЕ ЗМОГ АБАРАНІЦЬ НІ СВАЮ ЖОНКУ, НІ СЫНОЎ... НІ СЯБЕ.
ШТО Ж ЗАРАЗ?


ЗАРАЗ ТЫ ТОЛЬКІ ПАЦУК У ПАСЦЫ.


ПЕРАШКОДЗІЦЬ МНЕ ЗРАБІЦЬ ТОЕ, ШТО, Я ЎПЭЎНЕНЫ, ПАВІННА ЗДАРЫЦЦА.
ГЭТА МЫ ЯШЧЭ ПАБАЧЫМ.


ТЫ НЕ ПАМЫЛІЛАСЯ, ЭНДЖЭЛ...


...МЫ ПЭЎНА ТАМ, ДЗЕ ТРЭБА.
ТАК, І ЯК Я ЎЖО СКАЗАЛА, ТУТ НАШЫЯ З ВАМІ ШЛЯХІ РАЗЫХОДЗЯЦЦА.
АДГЭТУЛЬ ВЫ САМІ ЗА СЯБЕ.
УПЭЎНЕНА, ШТО НЕ ХАЦІЦЕ ДАЛУЧЫЦЦА? ЗДАЕЦЦА, ТУТ ШМАТ САЛДАТ «ФУТ». У ВАС БУДЗЕ ЦУДОЎНЫ ШАНЕЦ АДПОМСЦІЦЬ ГЭТЫМ ПАДОНКАМ ЗА ЎСЁ, ШТО ЯНЫ НАРАБІЛІ Ў ВАШЫМ КВАРТАЛЕ.


ESTAS LOCO. НІЧОГА ЦУДОЎНАГА З ГЭТЫМІ РАБЯТАМІ БОЛЬШ БЫЦЬ НЕ МОЖА.
ГЭТА ТОЛЬКІ АДЗІН З ІХ ПРАСТАНКАЎ – ТАКІХ ЯШЧЭ ШМАТ ПА ЎСЯМУ ГОРАДУ. НАМ І ТАК ПРАБЛЕМ ХАПАЕ, МЫ НЕ ХАЦІМ, КАБ З'ЯВІЛІСЯ ЯШЧЭ.
САПРАЎДЫ. БАЧЫЦЕ ГЭТЫХ АХОЎНІКАЎ ЗНАДВОРКУ? «ФУТ» ТУТ НЕ Ў ЦАЦГІ ГРАЕ.


ГЭТА НІЧОГА...
...МЫ ТАКСАМА НЕ З ГЛІНЫ ЗЛЕПЛЕНЫ.


АРОКУ САКІ ТОЛЬКІ ГУЛЯЕ СА МНОЙ. Я БЫЦЦАМ ЯГО ЦАЦКА.


WANG


І МЫ АБОДВА ГЭТА РАЗУМЕЕМ.
ТАБЕ НЕ ПЕРАМАГЧЫ, ЁШЫ.


ТВАЯ ПАРАЗА НЕПАЗБЕЖНА – І ТЫ ВЕДАЕШ ГЭТА.


АРОКУ САКІ ТОЛЬКІ
ГУЛЯЕ СА МНОЙ.
Я ВЫЦЦАМ ЯГО ЦАЦКА.


WANG


І МЫ
АБОДВА ГЭТА
РАЗУМЕЕМ.
ТАБЕ
НЕ ПЕРАМАГЧЫ,
ЁШЫ.


ТВАЯ ПАРАЗА
НЕПАЗБЕЖНА –
І ТЫ ВЕДАЕШ
ГЭТА.


ХЬЯ!


FWOK


СЁННЯ ТЫ
ЗМАГАЎСЯ ГОДНА,
АЛЕ ЗАРАЗ ТВАЁ ЦЕЛА
ЎЖО САСЛАБЛА.
ГЭТА ТВОЙ
НЕДАХОП.


ЁН НЕ ПАМЫЛЯЕЦЦА.
КОЖНАЯ КЛЕТКА
МАЙГО ЦЕЛА ТАК І
ПРОСІЦЬ, КАБ Я
СПЫНІЎ БОЙКУ.
КАБ ЗДАЎСЯ
СВАІМ БОЛЮ
І ЗНЯМОГЛАСЦІ.


АЛЕ Я ІХ НЕ
СЛУХАЮ.

ЗАМЕСТ ГЭТАГА, Я ПАЧЫНАЮ ДУМАЦЬ ПРА СВАЮ СЯМ'Ю... СВАІХ КАХАНЫХ СЫНОЎ І ШАНОЎНАЙ ТЭНГ ШЭН.

Я ЎЗГАДВАЮ ПРА ЎСЁ, ШТО ГЭТАЯ ПАЧВАРА ЗРАБІЛА З ІМІ. ПРА БОЛЬ І СТРАХ, ЯКІЯ ЁН ПРЫЎНЁС У ІХ ЖЫЦЦІ, ЯК МІНУЛЫЯ, ТАК І СУЧАСНЫЯ.

ПРА ШЧАСЦЕ, ЯКОЕ ЁН У МЯНЕ ВЫКРАЎ.

КАЛІ Я ПРА ГЭТА ДУМАЮ, УСЕ МАЕ ЎСПАМІНЫ, ЯК ДОБРЫЯ, ТАК І ЖУДАСНЫЯ, ДЖАЛЯЦЬ МЯНЕ, ПРЫМУСОЎВАЮЧЫ ЗАБЫЦЬ УВЕСЬ БОЛЬ І СТРАХ, ШТО Я АДЧУВАЮ...

...І ВЯРНУЦЦА Ў БОЙ.

ДЫК ШТО ТЫ ТАМ КАЗАЎ, САКІ?

АХ, ЁШЫ... БАЧУ, ТЫ ЗАСТАЎСЯ ТАКІМ ЖА ЎПЕРТЫМ. ЖАЛЬ, ТВАЕ СІЛЫ ЗНІКАЮЦЬ ДАРМА.

НУ, ЯК ХОЧАШ...

...ПРАЦЯГНЕМ!

У ГЛЫБІНІ СЯБЕ Я ШУКАЮ СІЛЫ, КАБ СКОНЧЫЦЬ З УСІМ ГЭТЫМ...

...КАБ ВЫЗВАЛІЦЬ СВЕТ АД ГЭТАГА НЯСТРЫМНАГА ТЭРОРА.

Я ІМКНУСЯ ПАКЛІКАЦЬ ДА ЎСЯГО САМАГА ВЫСАКАРОДНАГА, КАБ ЗАСТАЛОСЯ Ў МАІХ СЭРЦЫ І ДУШЫ...

...І РАБЛЮ ЎСЁ МАГЧЫМАЕ, КАБ АДПЛАЦІЦЬ СУСВЕТУ ЗА ТОЕ, ШТО ЁН ВЫКАНАЎ МАЕ ПРАДСМЯРОТНАЕ ЖАДАННЕ.

ДАРАВАЎ МНЕ МАГЧЫМАСЦЬ ЗНОЎ СУСТРЭЦЦА З САКІ...

...САМ-НАСАМ.


АЛЕ ЎРЭШЦЕ...
SNAP
ДОСЫЦЬ!


...Я РАЗУМЕЮ, ШТО СУСВЕТ ЗУСІМ НЕ ЗБІРАЕЦЦА ДАВАРАЦЬ МНЕ ПЕРАМОГУ НАД ГЭТЫМ ВОРАГАМ.
ЧАС ЗАКАНЧВАЦЬ ГЭТА!
Я НЕ ЗМАГУ ПЕРАМАГЧЫ. ЛЕПШАЕ, НА ШТО Я МАГУ СПАДЗЯВАЦЦА...


НЯДЗІЎНА, ШТО ТОЙ, ХТО БЫЎ ЗДРАДНІКАМ У МІНУЛЫМ ЖЫЦЦІ, ВЯРНУЎСЯ Ў АБЛІЧЧЫ ПАЦУКА.
...ГЭТА ГОДНАЯ СМЕРЦЬ.


Я РАЗУМЕЮ, ШТО ПАВІНЕН ПРЫНЯЦЬ СВОЙ ЛЁС.
АЛЕ, КАЛІ ЗДАЦЦА ЗАРАЗ, КАЛІ МАЕ СЫНЫ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў НЕБЯСПЕЦЫ – Я АДЧУВАЮ, ШТО ЎСІХ ПАДВЕЎ. З МЯНЕ – ДРЭННЫ ВАЯР.


НА ГЭТЫ РАЗ ТЫ ПАМРЭШ ТЫМ, КІМ БЫЎ УСЁ СВАЁ ЖЫЦЦЁ.
БРУДНЫМ ПАЦУКОМ.
І ДРЭННЫ БАЦЬКА.
ВІТАЙ, ХАМАТА ЁШЫ.
СЫНЫ...


...ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ.


KSSSSHH


FWUMP


ЁЎ, ПРЫТЫРАК, СЛУХАЙ СЮДЫ. ТЫ ПАКРЫЎДЗІЎ НАШАГА БАЦЬКУ...


...ЗАРАЗ БУДЗЕШ МЕЦЬ СПРАВЫ З НАМІ.


ДУРНІ! ЧАГО ВЫ ЧАКАЕЦЕ?


НАПЕРАД!
ЗНІШЧЫЦЕ НЕЧАКАНЫХ ГАСЦЁЎ!


АЛЕ ПАЦУКА ПАКІНЬЦЕ МНЕ.


ХЛОПЦЫ, МЫ ПАВІННЫ ЗАРАЗ ЖА ВЫЦЯГНУЦЬ АДСЮЛЬ СПЛІНТЭРА!
ДАРЭМНА СПАДЗЯЕШСЯ НА ГЭТА, МУТАНТ! ЖЫВЫМІ ВАМ АДСЮЛЬ НЕ ЎЙСЦІ! У ВАС НЯМА ВЫХАДА!


ТАК?
ТАДЫ ЗАРАЗ САМЫ ЧАС ЯГО ПРАСЕКЧЫ!
KLANG
ГНХ!


НАПЕРАД, МАЙКІ – НАМ ТРЭБА ЗАБРАЦЬ БАЦЬКУ І РУХАЦЬ АДСЮЛЬ!
Я СПРАБУЮ, ДОНІ, АЛЕ ГЭТЫЯ ІДЫЁТЫ ПАЎСТАЮЦЬ НА ШЛЯХУ! ГЛУПЫЯ НІНЗЯ-ЗЛОДЗЕІ!


ВЯРНУЎСЯ, КАБ ЯШЧЭ АТРЫМАЦЬ ЛЮЛЕЙ?
ГЛЯДЗІ-КА, КЕЙСІ... НАША СТАРАЯ СЯБРОЎКА АЛАПЕКС!
АГА, ПАМЯТАЮ ГЭТУЮ ВЫРОДЛІВУЮ ПСІНУ!


ГРРР!
АЎ! У МІНУЛЫ РАЗ ЯНА БЫЛА СПАКАЙНЕЙ!


CRAK
АДНАК ЦЯПЕР У НАС НЯМА НІЯКІХ СУМНЕВАЎ, НА ЧЫІМ БАКУ ГЭТЫ ТХОР!


ВАМ СПАТРЭБІЦЦА ЦУД, КАБ ПЕРАМАГЧЫ НАС, МУТАНТ! ВЫ ПРАЙГРАЕЦЕ НАМ У КОЛЬКАСЦІ!
ТАК? ШТО Ж, ДАЗВОЛЬ ПАДЗЯЛІЦЦА НАШАЙ СЯМЕЙНАЙ ТАЯМНІЦАЙ.
ТОЛЬКІ АДНАГО З МАІХ БРАТОЎ КЛАПОЦЯЦЬ ЛІЧБЫ!

ХІЯ!
ШТО?..

THUNK

А Я – ТОЙ, ХТО ВЕРЫЦЬ У ЦУД.

БАЦЬКА? ВЫ МОЖАЦЕ ІСЦІ?
Я... ВІДАЦЬ, НЕ, СЫН МОЙ. МАЁ ЦЕЛА...

МАЙКІ, НАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЯГО НЕСЦІ!
ДОБРА. ТОЛЬКІ ДАВАЙ ХУТЧЭЙ, ПАКУЛЬ СІТУАЦЫЯ ЗУСІМ...

...НЕ ЗМАР-НАВАЛАСЯ.
ВОСЬ ХАЛЕРА.


НЕ... ПАКІНЬ МЯНЕ. ВЫ... ВЫ ЎСЕ РАЗАМ ПАВІННЫ ПАЗМАГАЦЦА З... САКІ.
САКІ?

ОЎ!


ДОН!
БЯЖЫЦЕ!
KLANG


МАЙКІ!
УХОДЗЬЦЕ! ЗАБЯРЫ АДСЮЛЬ БАЦЬКУ! Я РАЗБЯРУСЯ!


«БАЦЬКУ»?


УФФ!


ДЗІЎНА.


ЛІХАМАЦЬ! ГЭТЫЯ РАБЯТЫ ЯК ПРУСАКІ – ЗАБЕЙ АДНАГО, А НА ЯГО МЕСЦА ПРЫЙДУЦЬ ЯШЧЭ ДВА!


ЗНОЎ ПУСЦІШ ДЫМ І ЗМЫЕШСЯ, ТАК, ПАННА Ў БЯДЗЕ?
ШТО ЗАЎСЁДЫ МАТАЕЦЦА, ДЫК ГЭТА ТВОЙ ЯЗЫК. У ГЭТАГА ПАЦУКА РОТ ТАКСАМА НЕ ЗАЧЫНЯЎСЯ.
АЛЕ ЁН, ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, УМЕЎ БІЦЦА. А ТЫ?


ЯАГХ!
ТОЛЬКІ І ЎМЕЕШ, ШТО БАЛБЫТАЦЬ!


ЗАНАДТА ШМАТ РАЗМАЎЛЯЮ, ТАК? ДОБРА...


KRAK
ХІІІЯ!


ВОСЬ МЕНАВІТА ПРА ГЭТА Я І КАЗАЎ.
Я ЦЯБЕ ЧУЮ.


ТРЫМАЙСЯ, ДОНІ! Я ІДУ!
ПРОСТА ТРЫМАЙ ГЭТЫХ ДУРНЯЎ ПАДАЛЕЙ АД МЯНЕ, МАЙКІ, І...


І ШТО, МУТАНТ?
БЛІН.


ДОНІ!


УБЯРЫ ЛАПЫ АД МАЙГО БРАТА!


ХІЯ!
ВУФФ!


ПРАКЛЁН!
ЛЕАНАРДА... ПАСЛУХАЙ МЯНЕ...


...УЗГАДАЙ, ЧАМУ Я ЦЯБЕ ВУЧЫЎ, СЫН. ТЫ І ТВАЕ БРАТЫ... ПАВІННЫ АБ'ЯДНАЦЦА... СУПРАЦЬ САКІ. ГЭТА ВАШ АДЗІНЫ ШАНЕЦ...


ВАШ БАЦЬКА ЗАБІТЫ, ДУРНІ. ЁН ПРАЙГРАЎ, І ТОЕ Ж БУДЗЕ З ВАМІ, КАЛІ ВЫ ПРАЦЯГНІЦЕ СВАЕ ДАРЭМНЫЯ СПРОБЫ.


ЗАМЕСТ ГЭТАГА, ЛЕПШ ДАЛУЧЫЦЕСЯ ДА НАШЫХ ШЭРАГАЎ... ДА МЯНЕ... І ДАВЕДАЙЦЕСЯ СМАК ПЕРАМОГІ!
ВЕДАЕШ, ДЛЯ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ КЛІЧА СЯБЕ ПЕРАМОЖЦАМ...


...ТЫ НЕШТА ЗАНАДТА ПАДОБНЫ НА ТАГО, ХТО ПРАЙГРАЎ!
SHWIP


УСЁ ДОБРА, ЛЕА. Я ЗАБЯРУ ЯГО.
ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, КЕЙСІ?! Я Б МОГ ДАПАМАГЧЫ, КАЛІ... ЛАЙНО!


А ГЭТЫ ДУРАНЬ АДКУЛЬ З'ЯВІЎСЯ?!
KANG
ТРЫМАЙСЯ, ЛЕА!
АДПАЧНІ, КЕЙСІ...


KRAK


...Я ЎЖО ПРА ЯГО ПАКЛАПАЦІЛАСЯ.
ЭНЖЭЛ?! А ТЫ ШТО ТУТ РОБІШ?
РАТУЮ ВАШЫЯ АЗАДКІ, НЯЎЖО НЕ ЗРАЗУМЕЛА?
І НАШЫЯ АЗАДКІ ТАБЕ ЎДЗЯЧНЫ!


АЛЕ, Я ЛІЧЫЎ, ШТО... НУ, «ПУРПУРНЫХ ЦМОКАЎ» ГЭТА БЫЦЦАМ БЫ НЕ ТЫЧЫЦЦА.
ІХ НЕ... А МЯНЕ ТЫЧЫЦЦА.
СЛУХАЙ... Я Ў АБАВЯЗКУ ПЕРАД ТАБОЙ, КЕЙСІ – У ВЯЛІКІМ АБАВЯЗКУ – І Я НЕ МАГУ ПРОСТА ТАК СТАЯЦЬ ЗБОКУ, КАЛІ БАЧУ, ШТО Ў ЦЯБЕ ПРАБЛЕМ, РАЗУМЕЕШ?
АГА, РАЗУМЕЮ.


ЁЎ! ЧАРАПАХІ! БЯЖЫМ АДСЮЛЬ!


ТОЛЬКІ... ЭРК... ПАЧАКАЙ, ПАКУЛЬ Я... ГАХ... ВЫЗВАЛЮСЯ, ЧУВАК.
ХЛОПЦЫ, МЫ ЎЗЯЛІ ТОЕ, ЗА ЧЫМ ПРЫЙШЛІ...


...ЧАС ЗАКАНЧВАЦЬ!
Г'ЯХ!


ХЛОПЦЫ, СЛУХАЙЦЕ! МЫ ПАВІННЫ ПРАЦАВАЦЬ У КАМАНДЗЕ – ГЭТА НАШ АДЗІНЫ ШАНЕЦ. РАЗАМ...
...ЯК НАС ВУЧЫЎ НАШ МАЙСТАР.


ДОБРА, МУТАНТ, ЦІ ГАТОВЫ ТЫ ЗНОЎ АДЧУЦЬ НА СЯБЕ МОЙ ГНЕЎ? АБЯЦАЮ, НА ГЭТЫ РАЗ ЛІТАСЦІ НЕ БУДЗЕ.
«ЗНОЎ»? ПРА ШТО ГЭТА ТЫ...




ТЫ!


САПРАЎДЫ. БАЧУ, ТЫ НЕ ЗАБЫЎ.
О, Я ЎСЁ ДОБРА ПАМЯТАЮ. НЕ СПРАЧАЮСЯ, У МІНУЛЫ РАЗ ТЫ МНЕ ДОБРА НАПАДДАЎ – АЛЕ ТОЛЬКІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я АДЗІН СУПРАЦЬСТАЯЎ УСЁЙ ТВАЁЙ ГРОБАНАЙ АРМІІ. АЛЕ ТЫ ЗАБЫЎ...


...ШТО ЦЯПЕР СА МНОЙ МАЯ СЯМ'Я!


УНГХ!
SHWIP


WHOP
АЎС!


KRAK


FWAK


ВАШАЯ КАМАНДРАЯ ПРАЦА ЎРАЖЛІВАЕ. ЁШЫ ДОБРА ВАС ПАДРЫХТАВАЎ.
Э, РАБЯТЫ... ЛІЧУ, ЗАРАЗ САМЫ ЧАС ЗМАТЫВАЦЦА АДСЮЛЬ.
АГА. БЯСПЕКА БАЦЬКІ ЗВЫШ УСЯГО. СЫХОДЗІМ.


ТАК, БЯЖЫЦЕ. ВЫ ТОЛЬКІ АДЦЯГВАЕЦЕ НЕПАЗБЕЖНАЕ. ГЭТА ЯШЧЭ НЕ КАНЕЦ.
Я ВЕЛЬМІ НАСТЫРНЫ. І СПЫНІЦЬ МЯНЕ НЕМАГЧЫМА.
Я ШРЭДАР.


FWSSH


FWOK
Я...


...НЕ ЎРАЗІЎСЯ.




ШТО Ж, СТОКМАН, ДУМАЮ, ТЫ І ТАК ЗРАЗУМЕЎ, ШТО Я НЕ ЎРАЖАНЫ ДАДЗЕНЫМ ВІЗІТАМ. ЁН АКАЗАЎСЯ НЯЎДАЛЫМ, ЯК І ЎСЯ МАЯ ПРАЦА З ВАШАЙ ЖАЛАСНАЙ КАМПАНІЯЙ.
ГЭТА ЎСЁ НЯЗНАЧНЫЯ ПАМЫЛКІ, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ, НЕ БОЛЬШ ТАГО. МЫ ЗНОЙДЗЕМ ПАЦУКА І ВЕРНЕМ ПСІХАТРОПНЫ ПРЭПАРАТ.
САПРАЎДЫ. ГЭТАМУ ПАЦУКУ КАПЕЦ, ДАЙЦЕ ТОЛЬКІ МАІМ ЛАПАМ ДА ЯГО ДАЦЯГНУЦЦА.
ЦІШЭЙ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК.
ЯК Я ЎЖО КАЗАЎ, ГЕНЕРАЛ, МЫ ЎСЁ ВЫПРАВІМ. І ПАЧНЕМ ПРАМА ЗАРАЗ.


МІСТАР НЯЧЫСЦІК – ВЫ ЗВОЛЬНЕНЫЯ.
АААА!
BLAM


ЦІКАВА. АЛЕ, ЯК Я СКАЗАЎ ВАМ ЯШЧЭ Ў ЛАБАРАТОРЫІ, ВАШ ПАЦУК МЯНЕ БОЛЬШ НЕ ЦІКАВІЦЬ. КОЛЬКІ КРЫВІ ВЫ ЎЗЯЛІ Ў ГЭТАГА БЕЗДАРЭМНАГА ІМБІЦЫЛА?
МІСТАРА НЯЧЫС-ЦІКА? МЫ ЎЗЯЛІ І ЗАКАНСЕРВІРАВАЛІ ДАСТАТКОВУЮ КОЛЬ-КАСЦЬ ЎЗОРАЎ. А ШТО?


FWP
ШТО?..


ЗАБЯРЫЦЕ СТОКМАНА. КАТА ПАКІНЬЦЕ.
ВІДАЦЬ, СПАДАРСТВА, НАДЫШОЎ ЧАС...


«...ДЛЯ ПЛАНА Б.»


СЛУХАЙ, ЭНЖЭЛ, НЯ ВЕДАЮ, ЯК ЦЯБЕ АДДЗЯЧЫЦЬ. ТЫ МАГЛА І НЕ ВЯРТАЦЦА, АЛЕ Я РАДЫ, ШТО ТЫ ГЭТА ЗРАБІЛА І ДАПАМАГЛА НАМ.
АГА, МЫ ТАКСАМА ЎДЗЯЧНЫ ТАБЕ, ЭНЖЭЛ!
ОЙ, ДОБРА. ЗАЎСЁДЫ БУДУ РАДАЯ. ІНШЫМ ЦМОКАМ ГЭТА НЕ СПАДАБАЛАСЯ, АЛЕ Я РАЗБЯРУСЯ. ДАРЭЧЫ, МНЕ ЎЖО ЧАС ВЯРТАЦЦА ДА ІХ.


БЕРАЖЫ СЯБЕ, ДЖОНС.
АГА. ТЫ ТАКСАМА, ЭНЖЭЛ.


ВІТАЮ.
ЭЭ... ВІТАЮ.


Я ЛЯЦЕЛА СЮДЫ З УСІХ НОГ. ДЗЕ ЁН, КЕЙСІ?
ТУТ. ЗАХОДЗЬ.


ЁН НЕ ПРАЧЫНАЎСЯ З ТАГО ЧАСУ, ЯК МЫ ЯГО ПРЫНЕСЛІ.


О БОЖА... ЛІЧЫЦЕ, З ІМ УСЁ БУДЗЕ...













...ЗА ТОЕ, ШТО ВЫ РАТАВАЛІ МАЁ ЖЫЦЦЁ.

КАНЕЦ.